# ЗВОН

Беларуская штодзенная палітычна-літэратурная часопісь.

Рукапісы павінны быць перапісаны чытэльна. Аплата прынятых рукапісау залежыць ад рэдакцыі. Рукапісы назад не выдаюцца.

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: м. Менск, Юбілейны дом.

Цана нумару 1 марка.

ГОД ВЫДАНЬНЯ I.

РЭДАКЦЫЯ адчынена штодня ад 9—12 гадз. і ад 5—7 гадз.

Цана абвестак:

за 1 радок за тэкстам . 2 м.
шукаючым працы, за абвестку . . . . 2 м.

№ 7. Менск, Панядзелак, 8 верасьня 1919 г. № 7.

Дзеле вялікага недахвату паперы, газэта часова выходзіць тры разы на тыдзень: у **панядзелак, сераду і пятніцу.**

## АБВЯШЧЭНЬНЕ № 20.

Абвінавачаные у невыкананьні распараджэньня і абвестак, каторые зроблены у абвяшчэньнях і загадах Ураду Менскага Округу без азнакі у іх размеру кары, падлягаюць адміністрацыйнай кары арэшту да 2 тыднеу альбо грашыма да 3000 р.

**ЕЛЕНЬСКІ.** Спауняючы абавязкі Намесьніка Гэнэральнага Камісара на Менскі Округ
**МЕШЧАНОУСКІ.** Кіраунічы Адміністрацыйнымі Справамі.

Менск, 2 верасьня 1919 г.

Наша рэдакцыя адчыняе на страніцах „ЗВОНА“ аддзел

**ВОЛЬНАЯ ТРЫБУНА**

для развагі спрэчных пытаньняу.

## Як мы гэта разумеем?

Нам часта даводзіцца чуць, што людзям расійскай культуры не падабаецца нашая палітычная арыентацыя; ім не *падабаецца*, што мы шукаем дапамогі для адбудаваньня Бацькаушчыны у нашай суседкі з Заходу-Польшчы, з каторай Беларусь, у палітычнай адзінцы Вялікага Князьства Беларуска-Літоускага, кепска ці добра, але дабраволька жыла на працягу сотак год, пачынаючы ад в. к. Якуба (Ягайлы) аж да падзелу Рэчы Паспалітай паміж суседнімі гаспадарствамі (джяржавамі), з 1386—1793 г.

Нас гэта ня дзівіць, бо мы разумеем, што вуснамі гэтых людзей *падсьвядома* гаворыць самы звычайны *маскоускі імпэрыялізм.* Але адкуль-жа трапіу да іх гэты маскоускі імпэрыялізм? Праз школы,— праз тые царскіе школы, каторые на працягу сотні год чауплі кожнай кніжкай, кожным падручнікам, што Беларусі няма і ніякіх беларусау ня было, што есьць толькі Северо-Западный край і *польская інтрыга*. Прауда, былі падобнага роду гутаркі і з другога боку, з боку Польшчы, толькі там гаварылося, што Беларусь з Літвою—гэта *Усходніе крэсы*, але з *маскоускай інтрыгай.*

Чым-жа усе гэта вытлумачыць, з якой крыніцы выцякаюць такіе гамонкі? Гэта тлумачыцца бязупынным змаганьнем нашых суседак за Беларусь і Літву, гэта выцякае з гістарычнай боркі Масквы з Беларусьсю. Сама па сабе Польшча ніколі не ваявала беспасрэдна з Масквою,—ваявала з ею Беларусь у асобе В. К. Беларуска-Літоускага, але з таго часу, як нашы князі сталі і польскімі каралямі, то змаганьне Масквы з Беларусьсю адбывалося пад штандарам Польшчы, прынамсі у вачох цемных, неалукованых маскоускіх палітыкау, каторые перадалі свой погляд і сучасным расійскім гісторыкам, а тые, у сваю чаргу, усяму расійскаму грамадзянству і усім, хто меу стычнасьць з Маскоушчынай. Гэта гісторыя падобна да царкоуных кніг, што былі папсованы бязграматнымі маскоускімі перапісчыкамі. Гэтага-ж погляду, утворанага маскоускай гістарычнай бязграматнасьцю, трымаецца і частка тых беларусау, каторые баяцца Польшчы, як бык чырвонай хусткі, і каторым не падабаецца нашая палітычная арыентацыя. Гэта зьяуленьне гістарычнага змаганьня, пераблутанага расійскімі гісторыкамі не без каманды свайго ураду дзеле свайго імпэрыялізму. Хто цікавіуся гісторыяй нашай Бацькаушчыны, той ведае, напрыклад, што навет у *Смутное время* на Маскоушчыне талачалі Маскву не палякі, а беларусы з украінскімі казакамі.

У кароткай газэтнай перадавіцы няма мейсца гаварыць аб гэтым падробна, мы толькі мусім зазначыць яшчэ, што расійцам быу просты рахунак прыпісаць усе гэта Польшчы, каб, змагаючыся з ею за Беларусь, перадаць сваю ненавісьць да Польшчы і беларускай інтэлігэнцыі.

Такім чынам, ня хэнць да палітычнай лучнасьці з Польшчай тлумачыцца хваробай, прышчэпленай да часткі беларускай інтэлігэнцыі расійскай культуры праз маскоускіе школы. Ад гэтай хваробы трэба вылячыцца, і лекі на гэта есьць: гэта любоу і шчырае замілаваньне да свае спакутанае, праз вякі прыгнечанае Маці-Беларусі. І каб нашая пэуная частка інтэлігэнцыі парупілася скарэй ачуняць ад маскоускай хваробы, то можна быць пэуным, што *ня мы* шукалі-б арыентацыі, а добрые людзі арыентаваліся-б на Беларусь.

А цяпер... цяпер мы кіруемся на Заход дзеля нашай палітычнай слабасьці, але нашая арыентацыя мае пад сабою цьверды гістарычны грунт і гістарычные традыцыі, выпрабованые нашай гісторыяй і жыцьцем нашых прэдкау.

## Польская соймавая камісія у Менску.

„Газета Польска“ выдрукавала справаздачу аб бытнасьці польскай соймавай камісіі у Менску гэтакага зьместу:

„Дзень 13-га жніуня быу для Менску днем завязаньня жывога контакту з Польшчай, супольнага паразуменьня прадстаунікоу Рэчыпаспалітай з насяленьнем Вітаутавага гораду; у той дзень польская соймавая дэлегацыя прыняла

шмат дэлегацыяу ад усіх арганізацыяу менскіх.

Прыемы адбыліся у памяшканьні акружнага камісарыяту.

Склад соймавай дэлегацыі быу гэтакі: проф. Камянецкі—прэзэс, Недзялкоускі—сэкрэтар, кс. Мацievіч, проф. Эрдэнац, п. Загорскі, п. Путра і п. Пятроускі.

Як прадстаунікі цывільнай улады былі тут: намесьнік гэн. Камісара Усходніх зямель У. Рачкевіч і яго памоцнік Альгэрд Еленскі.“

Пералічыушы усе іншые дэлегацыі, якіе былі на прыеме у паслоу Сойму і перадаушы зьмест размовы з імі, газэта у чарзе пераходзіць да беларускай дэлегацыі і піша:

„Дэлегацыя соймавая удзяліла шмат часу прадстаунікам Белай Русі.

Склад беларускай дэлегацыі, прынятай прадстаунікамі польскага Сойму, быу гэтакі: п. Ліосік, кс. Цікота, п.п. Радзевіч, Пупка, Галубок, Крэпскі і Фарботка. Беларускую дэлегацыю прывітау проф. Камянецкі.

Ад імя беларускай дэп. у роднай мове гаварыу пан Ліосік. Прывітау ен польскае войско, каторае вызваліло край ад „маскоускага наезду“, зазначыу даунейшую лучнасьць Белай Русі з Польшчай, каторая ня загасла. Ад імені Беларускага Нацыянальнага Камітэту прасіу Польшчу а помачы для змучанага няволяй беларускага народу. Выказау надзею, што Польшча ня захоча скарыстаць з свае цяперашняй перавагі; зазначыу, што за правамоцные органы Белай Русі уважае Беларускую Раду і урад Беларускай Рэспублікі.

Потым, ужо у мове польскай, гаварыу п. Радзевіч і кс. Цікота—першы ад імя „культурна-прасьветных арганізацыяу, другі ад імя беларускай хрысьціянскай дэмакратыі. Абадва пасьведчылі, што вітаюць салдата польскага, як брата, саюзьніка і прыяцеля.

Проф. Камянецкі і іншые паслы прасілі беларускую дэлегацыю пазнаеміць (сконкрэтызаваць) з палітычнай праграмай, зазначаючы, што беларусы у Вільні адмовіліся гэта зрабіць, пасылаючыся на Менск. У адказ на тое п. Ліосік перадау (*зрэфэравау*) програму Белай Русі.

Незалежная і непадзельная Беларусь мае заставацца у магчымай (*прыпушчальнай*) фэдэратыунай сувязі, або творыць вунію з Польшчай на падставе „вольнага з вольным“.

Да граніц беларускага панства (*гаспадарства, або дзяржавы*) хацеубы прылучыць амаль ня цэлую Вітэбскую, Чэрнігаускую і Менскую губ. Заходніх граніц п. Ліосік не зарысавау, а толькі зазначыу, што Менск—сэрцо Беларусі, а Вільня галава і будучая сталіца.

Усе беларускіе дэлегаты падкрэсьлілі патрэбу агранічыцца ад Усходу“.

У размове нашай з п. Ліосікам, як старшынею беларускай дэлегацыю, ен пасьведчыу, што справаздача гэта зроблена правільна, толькі адзначыу, што аб граніцах па усходзе ен пасылауся на карту проф. Карскага і прылучаючы да яе і Піншчыну. Што тычыцца агульнай палітыкі і плебісцыту, аб чым была гутарка з польскімі паслами, то п. Ліосік сказау, што у першым пытаньні ен саслауся на Раду Н. Міністрау, каторая зьяуляецца адпаведнай у гэтым сэнсе, а плебісцыт можа даць адпаведные рэзультаты, посьле шырокай агітацыі, праз Беларускі Устаноучы Сойм. Іначай беларуская шляхта, як найбольш спалёнізованная, пацягне да Польшчы, інтэлігэнцыя маскоускай культуры—да Маскоушчыны, а народ, у лепшым выпадку, будзе маучаць. Такая агітацыя, якая цяпер вядзецца на вёсках з польскага боку, не гадзіцца, бо яна не усьведамляе людзей нацыянальна, палітычна і эканамічна, а проста перакідае народ з адных абоймау у другіе, гатуючы не братэрскую лучнасьць, а нацыянальную варажнечу.

Каб ухіліцца ад гэтага, польская улада павінна стаць на старану беларускіх палітычных і культурных арганізацыяу і дапамагчы ім у адбудаваньні свае Бацькаушчыны.

**Падау Я. Ксяневіч.**

# ТО ТОЛЬКІ СОН...

*Шчыра паважанаму А. Моцнаму.*

Сяляне вескі Занямоньне любілі у нядзелю ці у сьвято сходзіцца на рынак, каб пра тое, пра сее пагаварыць, каб дазнацца дзе-якіх навін. Ось і у гэты вечар яны сабраліся аб чым небудзь пагаманіць. Грамада вялікая. Гоману многа. А вечар быу ціхі, цеплы і ясны. Зьлегенька падыхау ветрык, як-бы прыслухоувауся да гутаркі людзкай, каб потым панесьці яе угору і расказаць месяцу, зорам і хмаркам. Прышоу сеньня сюды і Адам Крауцовых. Яго рэдка бачылі на сходах. Ен быв самы бяднейшы у весцы. Зямлі зусім ня меу, апроч кавалачку агарода, ды й то на яго было трох братоу. Адам сядзеу усе дома, раздумваючы, як-бы палепшыць свае жыцьце. А жылося падта дрэнна. Але у гэты вечар і ен выпауз з свае старэнькае хаты. Яго непакоілі усялякія думкі, якіе яму бажалося выказаць каму-небудзь.

Сяляне сядзелі на бярвеньнях ля хаты Ткачука. Гоман ужо пачау сьціхаць. Здавалося, усе перагутарылі. Адам сядзеу і думау, як-бы пачаць гаворку пра свое думкі. Але вось неяк зайшла гутарка пра сны.

— Чорт яго ведае, што гэта—не'к ня сьніцца, сны дрэнные лезуць“,—пачынае адзін, а там другі. Тлумачаць пасвойму. Адам насачыу момант і пачау апавядаць. Што ен расказвау, гэта ня быу сон. Яго беднасьць, яго доля давяла да гэтакіх думак, але ен ня хацеу, каб ведалі, што гэта ен сам дамысьліуся, і сказау, што сьніу.

— Ось паслухайце, як я надум... як я сьніу,— папраўіуся Адам, пачынаючы гаворку.

— Ну, кажы, кажы—паслухаем,— загукалі сяляне:—мо што й цікавае?

— Ось я, здаецца, ужо зусім зьбяднеу: хоць я й так бедны, а то дык нават няма чаго есьці. Дык, здаецца, і надумау я паехаць у другі край у заработкі. Жонцы сказау прадаць каня, купіць хлеба і жыць пакуль што, а я зараблю грошай, буду прысылаць, потым сам, моу, прыеду і тагды зажывом палюдзку. „Ну, добра!“, згадзілася жонка. Ось раз увечар, здаецца,—як веска уже спала, разьвітауся я з жонкаю, з дзецьмі і паплеуся на станцыю. Грошай не'к сабрау на дарогу,—прадалі, здаецца, апошняга япрука. Заплакау, вельмі-ж бо горка і шкода было пакідаць свой родны куток. А далей некім цудам я ужо еду на чугунцы далека-далека ад сваей вескі. Сяджу гэта я у вагоне, думаю, у які б край ехаць, дзе больш заработкау і аб жонцы з дзецьмі думаю, ажна кандуктар ідзе і кажа усім з чугункі злазіць, бо далей цягнік ня йдзе. Зьлез я, іду, а цягнікау многа—многа, ды усе непадобные на той, што я ехау. Падыходжу я, к аднаму, а некі пан: „Сядай, ка'а, браце, калі хочаш,—паедзем у наш край, у нас добра жыць“. —„Але-ж у мяне білета няма?“—„То нічога! Ось сядай!“,—і адчыніу дзьверы. Я зьдзівіуся, што ен так ласькава да мяне зьвярнууся, бо я-ж просты мужык у лапцях, а ен пан. Зьняу я шапку, пакланіуся, падзякавау за раду і увайшоу у цягнік. Тут я зноу зьдзівіуся. Я ня ведаю, дзе я,—ці у пакоі у пана, ці у цягніку. Ня веры сваім вачом. Усе так пекна, так прыгожа: зэдлікі усе мягкіе, карцыны разьвешаны. Я доуга стаяу, разглядаючы, і баяуся садзіцца, аж калі падышоу зноу той пан, што ля вагону стаяу, і сказау садзіцца, тагды толькі я сеу. Не памятаю, ці доуга я ехау, ці не. Я ня ведаю на'т-куды. Толькі ведаю, што бяз білету, і грошай ніхто ня пытау. Але ось

## „Рускіе людзі“ і Беларускі народ.

„Прадстаунікі рускага насяленьня“, „рускіе прадстаунікі“. „рускіе людзі“—што гэта, сапрауды, за людзі, якую народнасьць яны у нас, на Беларусі, прадстауляюць? Гэтым нельга ня цікавіцца, аб гэтым нельга не гаварыць.

Апошніх два дзесяцілецьці паказалі усяму сьвету, што аднаго „рускага народу“ няма. Фалш, якую, пачынаючы ад 60 х гадоу прошлага сталецьця, расійские урады стараліся выдаць Эуропе за прауду, у канцы раскрылася. Цяперашніе практычные палітыкі ведаюць, што той усходня-славянскі агул, які ад іншых славянау адлічаецца часткаю „рус“, ня есьць адзінае нацыянальнае цело, а складаецца з трох саусім асобных народнасьцяу. Цяпер нават у Парыжу ня можна назвацца „рускім“, без таго, каб тамака зараз-жа не зацікавіліся: „а якой вы нацыянальнасьці?“. А па акраінах бышай Мяскоускай імперыі слово „рускі“ яшчэ мае нібыта азначаць нейкую нацыянальнасьць. Якая-ж гэта нацыянальнасьць?

„Рускіе людзі“... Досыць на момант перанесьціся у ня так далекую мінуушчыну, каб зараз-жа паусталі у нашай памяці зьвязкі „рускага народу“, „ісьціна-рускіх людзей“, „рускіе сабраньні“ і „клюбы“ і яскрава, як дзеі сягоньнешняга дня, прыпомнілася іх работа, іх клопат, іх шчырая і заядлая турбацыя, каб чым ніжэй прыгнябіць да зямлі няшчасную „інародца“, стагнаушага ад іх ісьціна рускіх заходау кале яго інтарэсау. І тагды адразу ясным зробіцца, якое значэньне мае наймя „рускі чалавек“.

Нам, людзям „Северо-Западнаго края“, знаемым з працай сваіх ісьціна-рускіх Шмітау і „іжэ з ім бысьць“, а так сама і паляком з „конгрэсувкі“, меушым у сваім часе прыкрасьць бачыць у Дзяржаунай Думе „прадстаунікомˮ Варшавы п. Аляксеева,—аб характары, аб „нацыянальнасьці“ гэтых „рускіх людзей“ шмат даводзіць ня трэба: быу час, пазналі!

Ды й ім, „рускім прадстаунікомˮ, гэтага доуга тлумачыць ня трэба. Яны бо „ведаюць што твораць“.

„Славянские-ль ручьи сольются
в русском море,
Оно-ль иссякнет—вот вопрос?“...

Вось пытаньне, каторае аформіу для іх прарок азіяцка-расійскага імперыялізму, а выразна паставіу і досыць трапна праводзіу задоуга да яго, яшчэ у XVI веку, Іван Грозны. „Прыказы“ Грознаго замяніліся міністэрствамі, дзякі статс-сэкрэтарамі, Рурыкавічы праз Романавычау Ленінцамі, а пытаньне, настауленае ім, асталося, як было, нязьменным, з той хіба толькі зьменай, што агульнае ускарэньне жыцьця у нашые часы надало яму яшчэ больш дзейны характар. І тые прадстаунікі „рускай нацыянальнасьці“, якіе яшчэ у нашым краю захаваліся у той час, калі такой „рускай нацыянальнасьці“ на сьвеце ня істнуе і, па праудзе ніколі нематнавало,—есьць прадстаунікі масхоуска-рускага імперыялізму, якіе ня могуць і ня хочуць зрачыся запаветау свайго духоунага бацькі з XVI ст.; гэта есьць актыуные працаунікі на карысць зьліцьця усіх „славянскіх ручьев“ у маскоуска-рускім „моры“, а саусім не такіе зьмірные авечкі, якіх яны з сябе удаюць. Гэта кроплі і слугі салоннага маскоускага мора, каторых заданьне-затруціць вадаплыу, зьліушы з ім нашую Беларускую рэчку.

Наша навіннасьць, баронячы свой Беларускі народ, аб гэтым галасна прагаварыць.

Каму па праудзе сьвятымі есьць старые сьцены Масквы, той павінен назваць сябе велікарусам і сумленна зрачыся сяброуства з „рускімі людзьмі“. Тагды па справядлівасьці, як і іншые, зробіцца ен братам славянінам Беларускаму Народу, а не гвалтоунікам з паляроукай XX, а хціваясьцю і подступам XVI в. в.; тым болей, што гэты подступ, гэты спрыт цяпер ужо нікога не ашукае, як не ашукау ен нікога і хаваючыся за плот Расійскага царызму.

**Навагрудзкі.**

---

ня ведама як, апынуся я у весцы (там гэтак яе звалі, але, як я думау, то то—настаяшчае место)“.

— Ну, брат, і сон!—ня стрымауся, каб не перапыніць, стары Язэп.

— Не перапыняй, Язэп!—Кажы далей, Адам!—адазвауся Максім.

— „Іду гэта я, разглядаю далей“, апавядае Адам: „усе роуна, як у лесе. Але ось падходзіць некі пан, дау „дабрыдзень“. Бачучы, што я ня тутэйшы, адазвауся: „хадзем, папалуднаем, браце,—ужо пара!“ Я усе роуна, як акамянеу ад гэтых слоу. Хацеу нешта сказаць, але язык не'к не паварочвауся. І я, падуласны некай невядомай сіле, паплеуся за ім. Схамянууся толькі, як мы падышлі да вялікай мураванай хаты, і той пан зноу зьвярнууся да мяне: „Ось сюды! Ты, браце, мусіць, ня тутэйшы,—ці здалек?“. Нейк язык разварушыуся; я пачау расказваць. Мы уселіся ля стала і чакалі, калі нам пададуць полудзень. Саля вялікая, сталоу многа. Чыста, хороша,—адна любата! Людзі сядзяць, палуднуюць, а усе адзеты па панску. Той пан, што быу са мною, як я дазнауся, звауся Юрка. Вось я і выкажы яму, адкуль я, чаго прыехау, бо узнау, што ен вельмі добры чалавек, хоць, як мне здавалося, пан. „Ага“—працягнуу Юрка, як я скончыу гутарку. Полудзень кончыуся. Усе давалі вельмі смачные стравы. Я зроду ня спытвау такіх. Пачау я поркацца у кішэні і вымаю кецку (яшчэ меу тры злоты грошай), каб заплаціць за полудзень. А Юрка: „Што гэта, пытае?“ Кажу, трэба заплаціць. „Як заплаціць?“ зноу пытае. Я зьдзівіуся. Думаю, што гэта хіба пан сьмяецца. Ажно як пачалі мы жупіць, то я дазнауся, што зусім тут грошы не ужываюцца, на'т ня ведаюць, што то за грошы. Ну, думаю, ось прыехау у заработкі! А тут грошай ва усей краіне няма. Хіба-та я, мысьлю, папау у нябескае царство, ці яко ліхо'? Юрка убачыу, што я зьдзіулены, і пачау мне тлумачыць.

— А-а, ось дык сон!—зноу ня стрымауся Язэп, а усе аж рот паразьзяулялі і вельмі уважна слухалі.

„Ось я, кажа Юрка“, апавядае далей Адам, здаволены, што яго думкі з цікавасьцю слухаюць:—„пайду, скажу маршалку, што да нас новы чалавек прыехау і адпрашуся ад работы. Тагды я павяду цябе усюды і пакажу, як у нас жывуць“. Пашоу, а я чакаю, раздумваючы: куды-та я папау? А людзі усе, папалуднаваушы, пачалі расходзіцца на работу. Але вось і Юрка вярнууся. „Ну, хадзем!“ ка'а. Пашлі. Ось Юрка і пачау расказваць. „Наш край, ка'а, увесь завецца „Краіна Працы“,—так і завецца, бо у нас усе ад малога да старога,—усе агульна працуюць, і працуюць у нас ня толькі для сябе, але для усіх людзей свайго краю“. Я слухаю уважна і ня разумею, як-та для усіх? А Юрка кажа далей: „Поле у нас абрабляюць не па асобку, а цэлай грамадою, цэлай вескай“. Мы тым часам вышлі ужо на поле. „Яно разьдзелено у нас на палеткі, і вось адны (у нас, бач, праца разьдзелена паміж усіх роуна) працуюць ля жыта, другіе ля ауса, трэйціе—ля ячменю і т. д. Гэта знача, ужо часьцей ля яго ходзяць, як у нас кажуць—культывіруюць, каб мець ад зямлі як найбольшы прыбытак. Але, калі сеяць, ці жаць, ці касіць, або бульбу выбіраць,—тая частка, якой прыпаручано той ці іншы палетак, ня зможа адна управіцца, дык ей пасабляюць другіе. А усім у нас кіруе Рада з маршалкам на чале. Мы выбіраем яго з паміж сябе“.

**Янка Кужаль.**

*(Канец будзе).*



